

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№ 51 (132). 16 — 22 снежня 1999г. • Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. • Кошт 40.000 руб.



## ВИННИКОВА ЖИВА?

**Пропавшая без вести весной текущего года экс-глава Нацбанка республики Тамара Винникова жива, предполагает "Белорусская деловая газета". Свидетельством тому служит опубликованное в последнем номере газеты интервью экс-банкира.**



Фото IREX/ProMedia

По утверждению автора материала, заместителя главного редактора "БДГ" Ирины Халип, женщина, представившаяся Тамарой Винниковой, позвонила в редакцию в пятницу вечером и попросила опубликовать ее заявление. "Звонившая ответила на ряд вопросов, ответы на которые могла знать только Т.Винникова", — подчеркнула в интервью "Интерфаксу" Ирина Халип.

Женщина, представившаяся Т.Винниковой, утверждает, что смогла уехать в страну, "где ее никто не выдаст". "Я нахожусь в безопасности, и моей жизни ничто не угрожает", — сообщила она.

Она пообещала, что находясь в эмиграции, будет заниматься политической деятельностью. В частности, экс-глава Нацбанка планирует обнародовать информацию, касающуюся политического руководства страны. "Мне известны некоторые финансовые обстоятельства существования режима. Мне известна критическая зависимость Лукашенко от олигархов России и его преступные планы уничтожения страны", — говорится в опубликованном в "БДГ" заявлении Винниковой.

Говоря о своем исчезновении, Т.Винникова отказалась сообщать подробности. "Мне помогла чистая случайность, я должна была умереть", — отметила она. Она сообщила, что знает, что произошло с исчезнувшими в течение текущего года известными белорусскими политиками: экс-министром внутренних дел Юрием Захаренко, депутатом Верховного Совета 13-го созыва Виктором Гончаром, бизнесменом Анатолием Красовским. Тамара Винникова убеждена, что умерший от инсульта в день ее исчезновения вице-спикер Верховного Совета 13-го созыва Геннадий Карпенко на самом деле был убит. "Мы должны были умереть в один день", — утверждает она. "Существует список людей, подлежащих уничтожению", — заявила Т.Винникова в интервью "БДГ".

"Я собираюсь вернуться и вместе с теми, кто бросил меня в эти застенки, встать перед лицом белорусского народа, покаяться в своих грехах и заставить их назвать все то, что сделали они", — сказала она. Т.Винникова сообщила, что намерена выступить в прямом эфире радио БиБиСи, чтобы дать собственную оценку подписанному в Москве 8 декабря Договору о создании Союзного белорусско-российского государства.

Напомним, что Т.Винникова была арестована в январе 1997 года по обвинению в хищениях в особо крупных размерах. С октября 1998 года она фактически находилась под домашним арестом. В ее квартире постоянно присутствовали сотрудники правоохранительных органов. Весной текущего года она бежала из своей квартиры и с тех пор считается пропавшей без вести. Т.Винникова находится в розыске "Интерпола".

ПРАБЛЕМА

### Наваселле без святла

**У верасні 1994 года Зэльвенскім райвыканкамам былі выдзелены зямельныя ўчасткі групе індывідуальных забудоўшчыкаў на Заходняй вуліцы ў Зэльве.**

За гэты час маладыя сем'і збудавалі свае дамы. А ў маі сёлета яны спадзяваліся адзначыць наваселле. На жаль, не ўсяліліся зэльвенцы і ў снежні. А справа вось у чым. Вуліцу Заходнюю ў Зэльве мясцовыя ўлады хочуць зрабіць эксперыментальнай — купіць і падвесці электразабеспячэнне ізаляванымі правадамі. На гэтыя мэты, як паведамілі забудоўшчыкі, было выдзелена 2 мільярды 400 мільёнаў рублёў. Але выдаткаваныя грошы ўпраўленнем капітальнага будаўніцтва райвыканкама былі патрачаны не па прызначэнню. Таму новыя дамы жыхароў Зэльвы Славінскага, Сяргей, Каранец, Хвясюк, Макарэвіча, Лазуты, Каламіец, Жыдок, Панасік і Рудога да сённяшняга дня застаюцца без святла. У раёне электрасетак яшчэ раз пацвердзілі, што здача дадзенага аб'екта ляжыць непасрэдна на ўпраўленні капітальнага будаўніцтва Зэльвенскага райвыканкама.

**Пётр ЖЭБРАК**



НОВОСТИ

### Снова подорожал проезд

**С 15 декабря в Слониме повысились цены на проезд в городском транспорте.**

Об этом сообщила корреспонденту "ГС" заместитель директора по перевозкам автопарка №3 Валентина Жук. Стоимость одной поездки в городском автобусе повысилась с 10 до 20 тысяч рублей.

Проездной месячный билет будет стоить 860 тысяч, льготный — 430 тысяч.

**Сергей ЧИГРИН**

### За 1 км - 100.000

**Согласно приказу Министерства транспорта и коммуникаций Беларуси, верхний предельный уровень тарифа за предоставление услуг легковыми автомобилями-такси утвержден в размере 100 тысяч рублей за 1 км. пробега, что на 40 тысяч рублей больше действовавшего до сих пор.**

Верхний предел за 1 час простоя у клиента отныне будет больше на 400 тысяч и составит 1 миллион рублей.

**БелаПАН**

НАВІНЫ

### Недакармілі

**Падобна на тое, што аграрны сектар Слонімшчыны не здолее выканаць гадавы план па рэалізацыі дзяржаве малака і мяса.**

Па выніках 9 месяцаў з 19 гаспадарак раёна толькі 7 справіліся з заданнем па продажу мяса і 2 — па малаку. Як адзначаюць спецыялісты, галоўная прычына ў тым, што жывёле недастае кармоў, а набыць іх няма дзе. Не зможа забяспечыць фуражом і мясцовы камбікормавы завод. Пры плане 20000 тон збожжа на прадпрыемства здадзена ўсяго каля паўтары тысячы тон давальніцкага зерня.

**Б.П.**

## У СЛОНІМСКАЙ МІЛІЦЫІ НОВЫ НАЧАЛЬНІК

**13 снежня 1999 года да выканання службовых абавязкаў прыступіў новы начальнік Слонімскага ГРАУС палкоўнік міліцыі Яраслаў Халецкі.**



Карэспандэнт "ГС" сустрэўся з ім і папрасіў адказаць на некаторыя пытанні.

***— Яраслаў Мікалаевіч, вы перайшлі з Астраўца ў Слонім на раўназначную пасаду?***

— Не, Астравецкі РАУС значна меншы па колькасці супрацоўнікаў, і пасада начальніка аддзела там адпавядала званню падпалкоўніка. А пагоны палкоўніка міліцыі мне ўручыў сам Міністр унутраных спраў Юрый Сівакоў, які пабываў у Астраўцы і станоўча ацаніў работу аддзела міліцыі.

***— На што ў першую чаргу вы звярнулі ўвагу падчас знаёмства з работай Слонімскага аддзела?***

— Мяне хвалюе вельмі нізкая выкрывальнасць злачынстваў, якія адбываюцца на тэрыторыі горада і раёна. За 11 месяцаў гэтага года яна склала 67,9% супраць 83,8% за адпаведны перыяд мінулага года. На вырашэнне гэтага пытання і будуць накіраваны ўсе намаганні міліцыі ў бліжэйшы час.

***— Раскажыце крыху пра сябе.***

— Нарадзіўся я ў 1951 годзе ў пасёлку Краснасельскі Ваўкавыскага раёна. У 1974 годзе паступіў на вучобу ў Валгаградскую вышэйшую школу міліцыі, якая рыхтуе следчых. Пасля заканчэння пачаў службу ў Свіслацкім райаддзеле міліцыі ў якасці следчага, а праз год стаў старшым следчым Ваўкавыскага ГРАУС. У 1989 годзе мяне прызначылі на пасаду намесніка начальніка Смаргонскага аддзела, а ў ліпені 1993 года я ўзначаліў Астравецкі райаддзел міліцыі. 13 снежня гэтага года загадам Міністра ўнутраных спраў Беларусі прызначаны начальнікам Слонімскага ГРАУС.

***— Якая ў вас сям'я?***

Жанаты. Жонка Вольга Іванаўна па прафесіі макшэйдэр. Маем дваіх дзяцей: дачку Таццяну і сына Мікалая. Дачка зараз знаходзіцца ў дэкрэце, даглядае дзіця, а сын — слухач 3-га курса Акадэміі МУС РБ.

**Гутарыў Валянцін ЧУРЫЛА**



ЗДАРЭННІ

### Баксёр-забойца

**Вечарам 10 снежня на вуліцы Васі Крайняга ў Слоніме мясцовы баксёр К. так стукнуў кулаком у твар 31-гадоваму мясцоваму жыхару Анатолю С., што той памёр у рэанімацыі.**

Узбуджана крымінальная справа.

### Аматары саломкі

**8 снежня на адной са слонімскіх вуліц у 4 гадзіны раніцы супрацоўнікі аддзела "Ахова" затрымалі 26-гадовага слонімца.**

Ён меў з сабой паўлітровы слоік наркатычнай вадкасці, выраблены з макавай саломкі.

А 10 снежня на Брэсцкай вуліцы нарад міліцыі затрымаў двух братоў М., у якіх выявілі макавую саломку і каноплі.

Па гэтых фактах ўзбуджаны крымінальныя справы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Увага! Падпіска!

Заканчваецца падпіска на "Газету Слонімскую" на 1-ае паўгоддзе 2000 года.

Кошт падпіскі на 1 мес. – 200 тыс.руб.

Падпісны індэкс – 64042.

На "ГС" могуць падпісацца жыхары Слонімскага, Зэльвенскага, Мастоўскага і Дзятлаўскага раёнаў.

ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК

Цены в тыс.руб.

| | 23.03 | 12.12 | | 23.03 | 12.12 |
|---|---|---|---|---|---|
| лимоны | 400 | 700 | яйца (1 дес.) | 130 | 400 |
| апельсины | 290 | 500-600 | картофель | 28 | 50 |
| морковь | 35-40 | 90 | свекла | 20-25 | 60 |
| мед натуральн. | 1000 | 1600-1850 | говядина | 400 | 600-1100 |
| свинина | 470 | 700-1200 | баранина | — | 700-900 |
| сало | 320 | 750-800 | чеснок | — | 600-750 |
| молоко | 20 | 80 | бананы | — | 350-450 |
| сметана | 100-120 | 300 | мандарины | — | 700 |
| масло сл. | 300 | 1400 | орехи грецкие | — | 600 |
| масло раст. | — | 600 | горох | — | 220 |
| творог | 70 | 250 | рис | — | 420 |

ПРАБЛЕМА

# ДЗЕЦІ НАРАДЖАЮЦЬ ДЗЯЦЕЙ

**За 10 месяцаў гэтага года 30 слонімскіх дзяўчынак-старшакласніц зацяжарылі і нарадзілі дзяцей.**

У сваёй большасці дзяўчынкі вымушаны нараджаць з-за таго, што непаўналетнім трэба ісці ў жаночую кансультацыю разам з маці, якія часам да апошняга не падазраюць аб цяжарнасці сваіх дачок. Акрамя таго, на прыёме ў доктара можна сустрэць знаёмых, альбо гінеколаг пачне "чытаць мараль". Некаторыя дзяўчаты баяцца расказаць пра сваю бяду родным, хіба параяцца з блізкай сяброўкай. З якой і абмяркоўваюць, як пазбавіцца ад нечаканай праблемы. Што толькі небарака не робіць: п'е шклянкамі ёд, мучыць сябе гарачымі ваннамі, падымае цяжкія рэчы... І, урэшце рэшт, трапляе на прыём да гінеколага, калі ўжо немагчыма ўтаіць вялікі жывот. Альбо, устрывожаная частымі прыступамі млоснасці ў дзяўчынкі, маці сілком прыводзіць яе ў жаночую кансультацыю, дзе на прыёме ў доктара просіць праверыць дачку, бо ў яе штосьці часта пачаў балець жывот...

Пасля абследавання ўрачу прыходзіцца паведаміць маці, што ў хуткім часе яна стане бабуляй, бо перарываць цяжарнасць ужо позна.



Па словах загадчыцы Слонімскай жаночай кансультацыі Алены Кунцэвіч, і аборты, і роды ў раннім узросце вядуць да непажаданых вынікаў. Дзеці ў дзяўчынак-маці часта нараджаюцца раней тэрміну, маюць малую вагу, часта адстаюць у фізічным развіцці. У выніку аборта ў кожнай трэцяй непаўналетняй узнікаюць рознага роду паталагічныя анамаліі і нават бясплоддзе. Юныя маці ў большасці выпадкаў не могуць закончыць сярэднюю школу і застаюцца з немаўляткамі на ўтрыманні бацькоў. Сям'я ў такой дзяўчынкі звычайна не складваецца, нават, калі і рэгіструецца прымусовы шлюб з бацькам дзіцяці, то маладыя людзі псіхалагічна яшчэ не падрыхтаваныя да сямейнага жыцця.

Алена Кунцэвіч адзначыла, што за дзевяць месяцаў 1999 года ў Слоніме на 100 родаў прыходзіцца 114,8 абортаў. Распавядаючы на гэту тэму, яна сказала, што ў грамадстве склалася парадаксальная сітуацыя. З аднаго боку, цяперашнія дзеці даведваюцца пра секс амаль што з першага класа. Спрыяюць гэтаму і эратычныя фільмы, і кнігі з занадта шчырымі здымкамі і падрабязным апісаннем эратычных сцэнаў, і вулічная адукацыя, і падслуханыя бацькоўскія размовы на гэтую тэму. З другога боку, у краіне не існуе дзяржаўнай праграмы па палавому выхаванню моладзі. Бацькі таксама сарамеюцца гутарыць на інтымныя тэмы. І тое, што секс — не забаўка і тоіць у сабе не толькі задавальненне, але і вялікую адказнасць, а часам і небяспеку, большасць падлеткаў не асэнсоўвае.

Урачы жаночай кансультацыі разам з настаўнікамі гарадскіх школ спрабуюць паўплываць на працэс палавога выхавання моладзі. Напрыклад, сёлета перад старшакласнікамі з лекцыямі на гэту тэму выступілі супрацоўнікі кабінета планавання сям'і, які існуе пры жаночай кансультацыі. Спецыялісты такім чынам імкнуцца неяк зняць вастрыню гэтай праблемы, каб паменьшыць колькасць дзяўчынак, якія са страхам і сорамам чакаюць сваёй чаргі да доктара, каб зрабіць аборт.

Валянцін ЧУРЫЛА

# НЕШТА НЕ ТАК

(Пачатак на стр.2)

### Людзі ў пагонах

У апошні час на экранах расійскага тэлебачання ўсё часцей можна бачыць людзей у пагонах. Там яны адчуваюць сабе сапраўднымі гаспадарамі.

Няўмольна раскручваецца віток халоднай вайны між Усходам і Захадам, дзе Беларусі адведзена роля пярэдняга краю абароны. Асабіста мяне гэта насцярожвае і палохае, бо памятаю, як у не такія далёкія часы ліхаманіла людзей у чаканні "гарачай" вайны: у магазінах раскупляліся запалкі, соль, мука, крупа і іншыя тавары так называемай першай неабходнасці.

### Чыноўнікам радасць

Не аднаму чыноўніку аб'яднанне прынясе сапраўдную радасць. А як жа! Павінны ж стварыцца нейкія новыя, ужо саюзныя органы ўлады. У перспектыве саюз можа стаць самай чыноўніцкай краінай. Ад аднаго з чыноўнікаў прыйшлося пачуць: "Чернь выдержит".

Аляксей ЯКІМОВІЧ

ВСТАТЬ! СУД ИДЕТ

# "КЛЮНУЛИ"

**Жители деревни Королев Стан Минской области некто Лунец, Гункевич и Насевич, наняв частника, приехали в Слоним.**

Насевич зашел в один из вино-водочных местных магазинов и спросил у продавщицы об утерянных документах. Услышав отрицательный ответ, он попросил ее, если кто сообщит о находке, позвонить ему по телефону за приличное вознаграждение. Для большей убедительности Насевич повесил у входа в магазин объявление аналогичного содержания, на котором значился номер телефона. Через несколько часов в магазине появился молодой мужчина (а это был Лунец) и как бы между прочим сказал, что нашел вблизи непонятные документы. Ничего не подозревавшая работница прилавка тут же сообщила по указанному телефону о находке. Трубку поднял уже Гункевич, который сказал, что в данный момент он сильно занят и не может приехать. Поэтому попросил женщину выкупить документы.

— Заплатите столько, сколько он просит, — умолял Гункевич. — А завтра я приеду и заплачу вам в несколько раз больше, — не скупился он на обещания. Обезумевшая от предчувствия легкой наживы, продавщица вручила Лунцу 47 млн. руб. и, спрятав "документы" в надежное место, стала с нетерпеньем ждать появления их хозяина.

Однако за пакетом, где были всевозможные бланки, подобранные в макулатуре, никто не пришел ни завтра, ни послезавтра.

Второй рыбкой, попавшей на крючок, оказалась продавщица из д.Чемеры Слонимского района. Все происходило по уже знакомому сценарию, с той лишь разницей, что за пакет с "документами" в руки преступника было отдано 35 долларов и 20 марок.

Дальнейший путь мошенников лежал в магазин деревни Кокоцицы нашего района, где заведующая магазином, решив, что сдерет с хозяина документов солидный куш, вручила гастролерам аж 100 долларов.

Кто знает, как долго еще продолжался бы вояж минских мошенников, если бы продавщица магазина деревни Юхновичи Слонимского района, заподозрив неладное, не позвонила в милицию...

Валентин ЧУРИЛО

НАВІНЫ

### Сімвал еднасці

**На вуліцы Пушкіна ў Зэльве ўстаноўлены мемарыяльны знак — фігура Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**

Яго ахвяравалі для гарадскога пасёлка Пётр і Наталля Габрэсі з польскага горада Вілямовіцэ.

Пётр ЖЭБРАК

### Разуменне без падтрымкі

**Мастоўскі камерсант і прыхільнік Таварыства беларускай мовы Алег Рудабелец вырашыў распачаць выданне літаратурна-мастацкага часопіса і звярнуўся ў райвыканкам, каб узгадніць некаторыя моманты будучай працы.**

Спасылаючыся на тое, што ў працоўных калектывах раёна ўведзена пасада намесніка кіраўніка арганізацыі па выхаваўчай рабоце, а, на думку супрацоўнікаў райвыканкама, іх палітрукі могуць замяніць паэмы і аповесці, мясцовыя ўлады забаранілі выданне часопіса. Тады Алег Рудабелец, як законапаслухмяны грамадзянін, звярнуўся ў аблвыканкам. Нечакана з вобласці прыйшоў адказ за подпісам начальніка ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Уладзіміра Амелькі, дзе ён паведамляе, што дапамагчы нічым не можа, бо, згодна з законам, падобныя пытанні вырашаюцца на месцы.

### Беспрацоўе сярод моладзі

**На пачатак бягучага года ў Мастоўскім цэнтры занятасці на ўліку значылася 54 беспрацоўных ва ўзросце да 18 гадоў.**

Гэта болей за 10% ад агульнай колькасці. На працягу года ў гэтую ўстанову ў пошуках працы звярнулася болей за 150 чалавек ды яшчэ 54 ваеннаслужачыя, звольненыя ў запас. На сённяшні дзень працаўладкавана каля 80 юнакоў і дзяўчат ва ўзросце да 18 гадоў і 51 былы воін.

Язэп ПАЛУБЯТКА

### Обижают белорусский язык

**Со времени майского референдума 1995 года, когда почти 54% избирателей проголосовали за придание русскому языку статуса государственного, сфера употребления белорусского языка резко сузилась.**

Такой вывод делается в Национальном отчете о человеческом развитии за 1999 год, подготовленном Программой развития ООН совместно с Администрацией президента.

В частности, белорусским языком перестали пользоваться во всех органах законодательной, исполнительной и судебной власти. Значительно сократилось употребление белорусского языка и в образовании. В 1998/1999 году доля учеников в школах с белорусским языком обучения уменьшилась до 19%, а доля учеников в школах с русским языком обучения выросла до 44%.

БелаПАН

ЗДАРЭННІ

### Злачынны рэйд

**12 снежня ў 23 гадзіны ў Слоніме на Брэсцкай вуліцы група юнакоў спрабавала абрабаваць мужчыну.**

Не знайшоўшы грошай, абураныя падлеткі моцна яго збілі. Наступнай іх ахвярай стала сланімчанка К., у якой рабаўнікі адабралі 3 млн. руб. і пашпарт.

Міліцыя шукае злачынцаў.

### Памёр у бальніцы

**13 снежня ў Слонімскай раённай бальніцы ад цяжкіх калецтваў памёр жыхар вёскі Шылавічы Слонімскага раёна 45-гадовы Ігар Отчык.**

Дзевяць дзён таму каля 17 гадзін на Чырвонаармейскай вуліцы мужчыну збіла аўтамашына. Узбуджана крымінальная справа. Абставіны здарэння высвятляюцца.

### Злодзеі жывуць побач

**Днямі ў жыхаркі Ж. з вёскі Шылавічы Слонімскага раёна два мясцовыя жыхары ўкралі з шафы залатыя вырабы.**

Узбуджана крымінальная справа.

### Падчысцілі...

**На мінулым тыдні з магазіна вёскі Байкі Слонімскага раёна злодзеі ўкралі 240 пачак цыгарэт "Прыма" і "Арбіта", 17 кг пячэння, 3 кг сала, 4 бутэлькі воцату і 250 скрыначак запалкаў.**

Міліцыя ўстанавіла, што ўвесь гэты тавар перанеслі да сябе мясцовыя жыхары, якія жывуць у доме побач з магазінам.

### Пажар у Высацку

**У вёсцы Высацк Слонімскага раёна ўзнік пажар у доме мясцовай жыхаркі Марыі Воранавай.**

Пажарныя выратавалі будынак ад агню і ўстанавілі прычыну загарання — няправільная эксплуатацыя печы.

Валянцін ЧУРЫЛА

### Ішла п'яная баба...

**У Мастоўскі РАУС звярнулася грамадзянка К. з заявай, што тры невядомых асобы спынілі яе і адабралі футравую шапку. Жанчына нават назвала месца, дзе тое адбылося.**

Міліцыянеры разам з пацярпеўшай выехалі на месца здарэння і ўбачылі, што яе прапажа спакойна плавае ў лужыне. Як потым высветлілася, шапку ніхто ў жанчыны не адбіраў, яна яе згубіла, калі вярталася дамоў з застолля.

Антон МАКЕЙ

### Злачынстваў пабольшала

**Аб гэтым засведчыў начальнік Мастоўскага РАУС Іван Зданові́ч. Ён адзначыў, што ў гэтым годзе назіраецца значны рост злачыннасці ў раёне.**

За 10 месяцаў 1999 года зарэгістравана 267 злачынстваў, што на 27,8% болей, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Больш як удвая ўзрасла колькасць нявыкрытых злачынстваў — з 21 да 50. Па лініі крымінальнага вышуку за гэты час учынена 178 злачынстваў, што на трэць больш ад мінулагодняга. Сёлета за 10 месяцаў супрацоўнікі склалі 1567 пратаколаў за з'яўленне ў п'яным выглядзе ў грамадскіх месцах і 467 — на рабочым месцы, што значна больш, чым летась.

Язэп ПАЛУБЯТКА

### Укралі цялят

**На адной з фермаў калгаса "Чырвоны партызан" Мастоўскага раёна за адну ноч невядомыя ўкралі шэсць цялят.**

Вядзецца пошук злодзеяў.

Антон МАКЕЙ

### Трагедии могло бы не быть

**В Зельве погибла ученица 4 класса местной СШ №2 Вика Винник.**

Случилось это, когда родители были на работе, а старший брат ушел погулять. Оставшись одна в квартире, 9-летняя Вика решила искупаться. Света в ванной не было, и она пристроила на стену переносной светильник. Находясь в воде, девочка захотела взять игрушку и случайно зацепила наспех прикрепленный электрический фонарь, который упал в воду. Произошло замыкание. Девочку отвезли в больницу. Врачи сделали все возможное, но вернуть ее к жизни не смогли.

Лявон ЯСЕНЬ

### Смерць у траншэі

**Рабочыя брыгады "Камунспецбуд" з Гродна пракладвалі водаправод у вёсцы Жукоўшчына, што ў Дзятлаўскім раёне.**

Пасля палудня вырашылі зараўняць траншэю. Нечакана абваліўся грунт і засыпаў 38-гадовага слесара Н. Чалавек памёр на месцы.

### Памерла пасля пахавання

**Усяго сто метраў не дайшла да свайго дома жыхарка М. з вёскі Яхноўшчына Дзятлаўскага раёна.**

Яна вярталася з пахавання сваёй аднавяскоўкі, дзе была ў ліку пеўчых. І нечакана памерла сама.

### Труп у студні

**У адным з калодзежаў вёскі Хрольчыцы Дзятлаўскага раёна знойдзены труп 72-гадовай жанчыны Т.**

Прычыны трагедыі высвятляе следства.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

### Ашуканцы не паравяляліся

**Днямі Дзятлаўскі РАУС узбудзіў крымінальную справу супраць прыватнага прадпрымальніка.**

Ён ашукаў мясцовага жыхара на суму 6000 амерыканскіх даляраў.

Міхась ЗАГОРСКІ

### Каб толькі не было вайны

У паліклініцы ў чарзе на прыём да доктара людзей было многа як са Слоніма, так і з вёсак. Разгаварыліся.

— Вам, сялянам, можа трохі лягчэй пражыць. Не ўсё трэба купляць. Свая бульба, садавіна, агародніна. Большасць вяскоўцаў маюць сваё сала, малако, яйкі, і за жыллё, за ваду не трэба плаціць, — пачала гарадская кабета.

— Можа каму і лягчэй. Спрачацца не буду. Я пра сябе скажу. Усё жыццё працавала ў калгасе. Ужо 8 гадоў на пенсіі. Шэсць мільёнаў атрымліваю. Жыву адна. Каровы ўжо даўно не трымаю. Гаспадарка невялікая — парасё і чатыры курыцы. Доктар кажа, трэба лажыцца ў бальніцу, а хату не пакінеш. Мінулы раз выпісалі лякарстваў на 5 мільёнаў. Дзе я іх вазьму?.. У хаце холадна. Дроў засталося на паўзімы. Брыкет толькі паабяцалі. Падкарміць свінча няма чым. Калгас у гэтым годзе збожжа не прадае. Нарыхтаваць дроў паабяцалі хлопцы, якія нідзе не працуюць і маюць час. Ужо авансам выпілі паўвядра гарэлкі, а дроў няма. Страха ў хаце працякае, плот падпіраю, каб зусім не ўпаў. І такіх як я ў вёсцы нямала... Вось сяджу тут і думаю, як дабрацца дахаты — аўтобусы не ходзяць, — падсумавала свой расказ пенсіянерка.

— Я даўно не быў у Слоніме, — падхапіў гутарку мужчына, — і сёння заглянуў у некалькі магазінаў. Ну і цэны! Простае вядро — больш мільёна, бляшанка фарбы — два з паловай, амаль столькі ж каштуюць гумовыя боты. А звычайнай ватоўкі нідзе не знайшоў... А ў прадуктовых! Цана рыбы лічыцца ў мільёнах. Кілаграм кількі каштуе 800 тысяч. Сяляне, у каго ёсць карова, прадаюць праз калгас дзяржаве малако па цане каля 30 тысяч за літр. Дык ім, каб купіць кілаграм той кількі, трэба прадаць 25 кілаграм малака. Во выгода! У той час як даглядчыкам жывёлы ў калгасе налічылі за месяц заробку па два мільёны. Няма прывагі — няма за што і няма чым плаціць...

— Вось-вось, — перабіла мужчыну пажылая кабета, — а мой муж трактарыстам працуе. Дык за месяц зарабіў аж шэсць мільёнаў. Кожны дзень на работу хадзіў...

Гутарка прыпынілася нечаканай высновай аднаой з жанчын : "Як-небудзь пражывем. Добра, што няма голаду і вайны."...

Як быццам бы ўся Еўропа цяпер ваюе і галадае.

### Няма грошай, і гэта не грошы

Даглядчык жывёлы за штодзённую (без выхадных) брудную і цяжкую працу на калгаснай ферме атрымлівае ў асенне-зімовы перыяд 2 млн. рублёў (тры(!) даляры). Трэба адзначыць, што заробак у 2-6 мільёнаў — не выключэнне, а звычайная ў гэты час для калгасаў з'ява.

Прывесу на ферме няма. Але над тым самым даглядчыкам стаіць цэлая парамі-

да кіраўнікоў з цвёрдымі акладамі.

Дык што ж купіць жывёлавод на свае два мільёны палучкі: 2,5 кг.ількі, гумовыя боты ці, можа, выпіша газету?.. Тут, як кажуць, каму што да густу. Але найбольш верагодна, што адразу пасля палучкі ён возьме ў магазіне бутэльку-дзве віна ці гарэлкі (што на той час будзе ў сельмагу), некалькі пачкаў "Астры", крыху закускі, а рэшта пойдзе на заўтрашняе пахмелле. "Няма грошай, — махне рукой, — і гэта не грошы..."

Цяжка жыць селяніну, цяжка і крыўдна. Хто малады, здаровы, працуе ў калгасе і дома па 16 гадзін у суткі і ледзь зводзіць канцы з канцамі. Выключна цяжка тым, у каго вучацца дзеці, пенсіянерам, адзінокім людзям.

Карова заўсёды была на вёсцы карміцелькай. Але трымаць яе ў многіх не хапае сіл. Для прыкладу, у вёсцы Зосімавічы на 35 двароў засталася адна карова. Многія не трымаюць і парасят. Цяжкавырашальнымі праблемамі з'яўляюцца рамонт дамоў, забяспячэнне палівам, апрацоўка сотак і ўборка бульбы.

Прыехаўшы па неадкладнай патрэбе ў горад, рядавы селянін не можа сабе дазволіць зайсці ў сталоўку перакусіць, у цырульню — падстрычыся, не кажучы ўжо пра тое, каб пакарыстацца паслугамі таксі.

# Эдуард АРОЧКА, аграном-эканаміст, былы старшыня калгаса

# ДОЛЯ СЯЛЯНСКАЯ


Фота IREX/ProMedia

### Амаль так было і раней

Нашы ўлады па старой звычцы карыстаюцца марксісцка-ленінскім вучэннем аб кіруючай ролі рабочага класа. Адсюль і адпаведная палітыка, вынікам якой з'яўляецца дыспарытэт цэн і заработнай платы: нізкія цэны на прадукцыю вёскі і высокія — на прамысловую. Зарплата ў горадзе ў некалькі разоў вышэй, чым у асноўнай масы калгаснікаў. Гэта вынік планавай эканомікі, а не рыначнай стыхіі.

Савецкая ўлада ніколі не была справядлівай для сялян. Хіба толькі ў кароткі перыяд НЭПу, калі СССР забяспечыў сябе харчаваннем і сельска-гаспадарчай сыравінай і нават стаў буйным экспарцёрам збожжа і іншай сельгаспрадукцыі.

Але бальшавікі не былі б бальшавікамі, каб не бачылі ў гэтым пагрозу рэстаўрацыі капіталізму. Баяліся, каб селянін не стаў кулаком, кулак — памешчыкам, а дробны прадпрымальнік — буйным капіталістам.

Праблема была вырашана калектывізацыяй. Знішчылі багатых. Усе сталі беднымі. Калгаснікператварыўся ў нявольніка без пашпарта, без сваёй зямлі, без заробку, з адзіным правам працаваць. Але не гледзячы на ўціск, рэпрэсіі, калгасна-саўгасная сістэма не набрала неабходнай эфектыўнасці. З той пары і да гэтага часу (за рэдкімі выключэннямі) СССР, а потым Расія не могуць пракарміць, адзець і абуць сваіх грамадзян.

Па 20-30 і нават больш мільёнаў тон збожжа ў год імпартавалася ў СССР з Канады, ЗША, Аргенціны, цукар — з Кубы, адзенне і абутак — з краін СЭУ. Гэта было магчымым, дзякуючы экспарту вялікай колькасці нафты, якая здабывалася ў Еўрапейскай частцы Саюза з адносна невялікімі затратамі. Цяпер такой магчымасці ўжо няма ні ў Расіі, ні ў нас.

Старыя людзі помняць вельмі цяжкі пасляваенны час. Тады ў Заходняй Беларусі не было калгасаў. Адразу пасля вызвалення абяздоленым вайной сялянам, многія з якіх не мелі ні коней, ні кароў, былі даведзены каля двух дзесяткаў падаткаў і абавязковых нарыхтовак. Падаткі былі, для прыкладу, такія як сельскагаспадарчы, ваенны, на халасцякоў і маласямейных, дзяржаўны заём (пазыка), нарыхтоўкі — збожжа, бульба, льно-валакно, льно-семя, тытунь, сена, салома, мяса, малако, воўна, яйкі. Яшчэ плацілі страхоўку, выконвалі абавязковыя планы нарыхтоўкі і вывазкі лесу. Акрамя льготнікаў, літасці нікому не было. Многіх, хто не мог сплаціць усіх падаткаў і выканаць нарыхтоўкі, судзілі, забіралі збожжа, жывёлу. Такой была "падрыхтоўка" да калектывізацыі, якая ў "добраахвотна-прымусовым" парадку прайшла ў 1948-50 гадах.

Так на нашых землях адбыўся поўны развал той сістэмы гаспадарання на зямлі, у якой сяляне жылі стагоддзямі. Многа гадоў запар калгасы былі слабымі. Зямля перастала радзіць, абраблялася дрэнна. За працу налічвалі працадні, за якія ў канцы года выдавалі па 300-500 грамаў зерня на працадзень, а ў некаторых калгасах і зусім нічога. Сяляне засталіся без хлеба. У каго былі нейкія грошы, тыя хадзілі пешшу ў Слонім, выстойвалі ў чарзе амаль суткі і вярталіся з 2-3 боханамі. У першай палове 50-ых гадоў многія сяляне, каб выратавацца ад голаду, вербаваліся і з сем'ямі перасяляліся ў Латвію, Карэлію, на цаліну і іншыя рэгіёны Саюза.

Нязначныя зрухі да лепшага пачаліся пры Хрушчове. Калгасы набывалі сваю тэхніку, ішло ўзбуйненне гаспадарак, меліярацыя, будаваліся фермы і інш. Але жыццёвы ўзровень калгаснікаў амаль не павышаўся. Тыя ж грамы на працадзень. Селянін заставаўся нявольнікам, не меў пашпарта, не мог пакінуць калгас без згоды праўлення.

### Толькі пры Брэжневу

Брэжнеўска-машэраўскі перыяд калгаснага жыцця быў даволі супярэчлівым. Тагачасныя кіраўнікі СССР бачылі вострую неабходнасць прынцыповага вырашэння аграрнага пытання, каб не імпартаваць у вялікай колькасці сельгаспрадукцыю.

Сельская гаспадарка атрымала вялікія сродкі з бюджэта на меліярацыю, хімізацыю і механізацыю. Павышаліся закупачныя цэны на ўсе віды сельгаспрадукцыі і асабліва на тое, што прадавалася дзяржаве звыш плана. У калгасах была ўведзена гарантаваная аплата працы, калгаснікі пачалі атрымоўваць пенсію.

Усё гэта значна падтрымала калгасы і саўгасы, паднялася працоўная актыўнасць вяскоўцаў, у большасці гаспадарак узрасла вытворчасць. Але ўсе гэтыя дарагія для дзяржавы мерапрыемствы не далі чаканых вынікаў. Аўтарытарны рэжым, планава-бюракратычная сістэма ўлады і калгасна-саўгасны лад былі няздольны вырашыць аграрную праблему. А яшчэ больш сродкаў укладаць у сельскую гаспадарку краіна ўжо не магла. З пачатку 80-ых гадоў у народнай гаспадарцы праявіліся тыя негатыўныя тэндэнцыі, якія потым прывялі да развалу СССР.

Але вернемся да сельскай гаспадаркі і лёсу селяніна.

Беларусь (і перш за ўсё заходняя) у брэжнеўскі перыяд мела даволі высокія паказчыкі ў развіцці сельскай гаспадаркі. Прычына поспехаў суб'ектыўная — менталітэт заходняга беларуса, які не развучыўся сам сумленна працаваць і навучыў гэтаму дзяцей і ўнукаў. Пры калгаснай сістэме толькі працуючы "на знос" было магчыма дасягнуць нейкіх поспехаў, якія набліжалі Беларусь да еўрапейскага ўзроўню.

Калгаснікі атрымлівалі больш-меньш прыстойныя па тых грашах заробкі. З'явілася магчымасць нешта адкласці "на чорны дзень". Частка месячных заробкаў, выручка за прададзенае дзяржаве малако і жывёлу з прыватных гаспадарак залічвалася на ашчадныя кніжкі. На вялікі жаль, прыбыткі самых сумленных і працавітых сялян "з'ела" інфляцыя. Дзяржава абрабавала сваіх лепшых грамадзян. А гэта значыць, што і ў лепшы для сялян брэжнеўскі перыяд, яны працавалі амаль дарма.

### Што рабіць?

Лёс селяніна ў наш час залежыць ад стану эканомікі калгаса. А стан большасці калгасаў такі, што падстаў для аптымізму не пакідае. Чакаць нейкага зруху да лепшага ў бліжэйшыя гады нерэальна.

Ніхто не заменіць у калгасах зношаную тэхніку на новую, ніхто ў кароткі тэрмін не адновіць урадлівасць калгасных палёў, статак жывёлы і яе прадуктыўнасць, ніхто не падорыць калгасам растрачаныя абаротныя сродкі. Немагчыма прыцягнуць у збанкрутаваныя калгасы вопытных, сумленных і працавітых спецыялістаў замест тых, хто з расчараваннем ці з інфарктам пакінулі гаспадаркі.

Немагчыма перавыхаваць хранічных алкаголікаў у перадавікоў вытворчасці і добрых гаспадароў.

Калгасна-саўгасны лад у сённяшнім выглядзе, як кажуць, не вытрымаў экзамену, каб паспяхова існаваць у рынычных умовах.

**(Працяг у наступным нумары)**

СПОРТ

### "Сувораўцы" — лепшыя стрытбалісты

**У Слонімскім раёне адбыўся першы чэмпіянат па стрытболу сярод гаспадарак і ўстаноў.**

Стрытбол — гэта вулічны баскетбол (хаця і праводзіўся ў спартзале райаграпрамтэхнікі), асноўны змест якога — сумленная, справядлівая гульня, што выключае наўмысную грубасць. Працягваецца яна 20 мінут або да 16 трапных пападанняў на палове баскетбольнай пляцоўкі.

Два дні запар 13 каманд змагаліся за тытул чэмпіёна. Спачатку ў дзвюх падгрупах вызначылі 8 мацнейшых каманд, якія ў серыі плей-оф (прайграўшы выбывае) працягвалі барацьбу.

У паўфіналах аб'яднаныя калектывы баскетбалістаў — саўгас "Слонімскі"-Новадзевятковіцкая СШ і калгас імя Суворава-Рахавіцкая СШ — перамаглі дзве каманды Жыровіцкага сельгаскаледжа.

Фінал удаўся на славу! Толькі ў пачатку гульні лік быў роўны, затым ініцыятывай завалодалі саўгасныя баскетбалісты і, здавалася, ужо няма сілы, якая спыніць іх пераможнае шэсце. Аднак кожны чарговы мяч даваўся лідэрам з усё большай цяжкасцю, а хутка з'явіліся і першыя прыкметы няўпэўнасці. Завалодаўшы адскокам ад шчыта, рахавіцкія спартсмены трапна атакавалі і, нарэшце, зраўнялі лік...

Вядома, найбольш справядлівым вынікам была б нічыя, але яна вельмі рэдкая ў баскетболе. Аднак, паказаўшы зайздросную волю, перамаглі баскетбалісты калгаса імя Суворава. На трэцім месцы — Жыровіцкі сельгаскаледж.

Пераможцы і прызёры атрымалі ад загадчыка аддзела па фізкультуры і спорту райвыканкама Андрэя Замарухава граматы і грашовыя прэміі.

**Мікола НАВІКЕВІЧ**

### Трыумф баскетбалістаў Слонімшчыны

**У Гродне, у рамках абласной спартакіяды сярод дзяцей і падлеткаў, адбыўся фінал першага чэмпіянату вобласці па стрытболу.**

Гонар Слонімшчыны абаранялі шматразовыя чэмпіёны горада і раёна каманды "Саюз-5" (СШ № 5) і Рахавіцкай СШ (гэта была адзіная вясковая каманда на турніры!). Спачатку гульні адбываліся па круговай сістэме ў падгрупах, пасля — па алімпійскай — з выбываннем.

І слонімцы, і рахаўчане адольвалі ўсіх сваіх сапернікаў. У выніку, з 16 удзельнікаў у фінал выйшлі "Саюз-5" і "Рахавічы". Ігракі "Саюза-5" аказаліся лепш падрыхтаванымі. Слонімцы паказалі выдатную гульню і перамаглі сапернікаў з розніцай у 6 ачкоў.

Поспех чэмпіёна — каманды "Саюз-5" — абумоўлены стараннем усіх ігракоў і іх трэнера — настаўніка фізічнай культуры СШ № 5 Юрыя Маруцкага, які вучыць іх з пачатковых класаў.

**Леанід ЖУРОВІЧ**

 



ГОРАД. НАШЫ ГОСЦІ

## Віктар Роўда: "ХОР БЫЎ І ЗАСТАНЕЦЦА"

**У восьмай школе г.Слоніма пабываў народны артыст Беларусі Віктар Роўда. З 1965 года ён з'яўляецца кіраўніком і галоўным дырыжорам хору Беларускага тэлебачання і радыё.**



Віктар Роўда – доктар мастацтвазнаўства, прафесар. Скончыў Літоўскую кансерваторыю. Склаў і выдаў некалькі хрэстаматый па чытанню харавых партытур, па беларускай харавой опернай літаратуры, шмат зборнікаў, прысвечаных харавым канцэртам. Карэспандэнт "ГС" сустрэўся з Віктарам Роўдам і задаў яму некалькі пытанняў.

**– Віктар Уладзіміравіч, з чым звязаны Ваш візіт у слонімскую школу?**

– У гэтым годзе я паслухаў, як выступаў хор дзяўчынак і хор хлопчыкаў са Слоніма на фестывалі "Магутны Божа", што праходзіў у Магілёве. Там я паабяцаў, што прыеду ў Слонім, каб спаткацца і бліжэй пазнаёміцца з кіраўнікамі гэтых хароў, з настаўнікамі музыкі і з тымі, хто спявае. Скажу шчыра, я вельмі задаволены, што ў СШ №8 ідзе добрая падрыхтоўка юных спевакоў-харыстаў. Гэта вельмі нялёгкая праца. Тым не менш, зачаткі ў харавым мастацтве ў школе ёсць. Я паслухаў выступленні вучняў, правёў з імі кансультатыўныя заняткі і з іх настаўнікамі, гутарыў з адміністрацыяй школы. Думаю, што супрацоўніцтва і сяброўства наша толькі пачынаецца.

**– Віктар Уладзіміравіч, а раней Вы былі ў Слоніме?**

– Не, я ўпершыню наведаў старажытны Слонім, хоць родам са Смаргоні. Хаця ў свой час я быў добра знаёмы са слонімскім кампазітарам і дырыжорам Антонам Валынчыкам, спяваў яго песні, а таксама слухаў, як выступае ягоны хор. Гэта быў цудоўны чалавек, таленавіты музыкант і педагог.

**– Некаторыя лічаць, што харавое мастацтва сёння выцеснілі сучасныя рок-гурты.**

– Яны ніколі не выцесняць хор. Гэта мода на розныя рок-гурты. А мода прыходзіць і адыходзіць. Хор жа быў і застанецца, як музыка Баха, Чайкоўскага, Моцарта і Бетховена.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЮБІЛЕЙ

## ПАЭТ МОЛІЦЦА ЗА БЕЛАРУСЬ

**Алегу Бембелю (Зьнічу) 16 снежня спаўняецца 60 гадоў.**

Паслушнік Алег Бембель жыве ў Свята-Успенскім Жыровіцкім манастыры. Так склаўся ягоны лёс, так даў Бог.

Нарадзіўся ён у сям'і народнага мастака ў Мінску. У свой час Алег закончыў музычную школу і Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Быў аспірантам Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук Беларусі. Працаваў над дысертацыяй "Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў мастацкай культуры". Але абараніць яе не змог, так, як яго праца была прызнана нацыяналістычнай. Алега Бембеля пазбавілі статуса навуковага супрацоўніка і прымусілі пакінуць установу.

Але беларускі філасоф і паэт не сядзеў без справы, ён пісаў кнігі. Падборка ягоных вершаў друкавалася ў зборніку "Крыло" (1984). Пасля былі асобныя кнігі "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс", "Рэха малітвы", "Саната ростані" і іншыя.

У гэтыя снежаньскія дні хочацца павіншаваць Алега Андрэевіча з 60-годдзем і пажадаць яму духоўнага спакою і творчага натхнення.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Моладзі

*...як плоць твая гатова*
*несьці добры плод —*
*душа павінна чыстай стаць*
*для Божай Волі...*
*і племені лаза*
*дасьць чырвань,*
*што спатоліць...*
*і зробіць Баганосным*
*твой народ...*

***

*...як кожнаму "я",*
*так і кожнаму племені*
*даецца — па літасці —*
*ласка Хрыстовая —*
*як Вечнага Царства*
*сьвятое насельнне...*
*як плён Запаветаў*
*Старога і Новага...*

***

*з адцягненых значэньняў*
*крохкіх слоў*
*сплятаю харастко —*
*для Славы Божай...*
*і бляск з-пад вейкаў,*
*трапяткі й прыгожы,*
*адкрые мне*
*ўваскрослую*
*Любоў...*

ПАМФЛЕТ

# МОЯ ПРЕИСПОДНЯЯ

Разрешите представиться. Черт... Да не пугайтесь вы! Ну, черт, ну, грязный, некрасивый... Так ведь служба у меня такая нечистая. Чай не в раю работаю, – в аду.

Да я еще и не самый страшный. Я ж ведь так себе, средненький черт. Есть и повыше меня, но есть и те, кто пониже. По служебной лестнице, я имею ввиду.

Вот вы все говорите, мол, чумазые мы, и серой воняем, и характер у нас дренной. А вы сами посудите, в каких условиях приходится работать. Вокруг копоть, сажа, грешники постоянно чем-то недовольны – одним словом ад крамешный. А не дай дьявол, перебои с топливом, – это ж грешникам нашим послабление в страданиях! За это и в другой отдел перевести могут. Или, не к утру будь помянуто, – в низовое звено. Хуже только разжалование в грешники может быть. Хотя это у нас редко практикуется. На моей памяти только один случай был. Старый черт один (и фамилия у него Старочертов) совсем из ума выжил, решил грешникам своим мучения облегчить и чуть было до райской жизни их не довел... Но вовремя Верховный наш спохватился, суд над этим Старочертовым устроил показательный, чтоб другие не забывались, – да и скинул этого ренегата в грешники...

И чего только, спрашивается, этому старому не хватало? Все вроде бы у него было. И участок у него почитай был самый легкий. Там у него одни колхозники малограмотные в грешниках ходили... Так нет же, угораздило...

Впрочем, кому сейчас легко? Взять хоть мой четвертый отдел. Это где грешники-завистники. Раньше был тихий, мирный участок. Все завидовали, но по-хорошему, цивилизованно. А теперь как с цепи сорвались, так завидуют, чуть что на куски друг друга рвут. А ответственность за порядок в отделе на мне. Вот и изнервничался весь...

Хоть бы меня уже в первый отдел перевели. Там у них спесивые да высокомерные, они плевать один на одного хотели и потому сидят себе каждый в своем котле и гордятся исключительно собой. Красота!

Но лучше всего это в нашем Комитете по Вербовке Душ. Престижно и никакой тебе ответственности.

А недавно наш Верховный задумал с соседним филиалом объединиться. Говорит, всем облегчение от этого выйдет. Тот филиал побогаче нашего, обещает топливо без срывов и почти даром поставлять. Да и черти у них там поопытнее наших, стоит только завидовать, как они у себя приватизацию многострадальных заводов за счет грешников провернули. Вот где черти-профессионалы! В их чертятнике жизнь кипит, как смола в котле. Авось и у нас после объединения веселей станет.

Вот такая жизнь у нас в пекле. Так что не надо нас чертей бояться. Мы же простые работники ада. Да и никому из грешников в наше пекло дорога не заказана. Надо только контрактик с Верховным заключить и чинить побольше разных пакостей.

Я сейчас как раз думаю над этим. Разрабатываю многопрофильную высокорентабельную дьявольски обоснованную систему непрерывного страдания грешников. А самое главное, Верховный у нас голова – честь и хвала ему во всей Преисподней!

На этом позвольте откланяться. Мне на сходку пора. Будем пропесочивать чертей-отщепенцев и оппозиционеров. Да, есть у нас и такие...

Поскакал я, а то Верховный косо смотреть будет. Пока!

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ГУМАРЭСКА

# АБАКРАЛІ

Паехалі мы разам з кумой Альбінай на кірмаш па парасят. А яны на нашым кірмашы рана прадаюцца. Трэба ліхтарыкамі падсвечваць. Тут кума сабе пайшла па радах шныраць, а я сабе. А за возам назіраць пакінулі майго ўнучка Міколку. Малы, праўда, яшчэ ўсяго ў трэці клас ходзіць, але палец у рот не кладзі.

Дык вось. Хаджу я па радах, парасятак па густу шукаю. Я люблю рабенькіх, каб вушкі веселі і хвост спіралькай тырчэў. Нарэшце надыбала такіх. І ў цане сышліся. Патаргавалася, праўда, для прыліку, бо які ж гэта кірмаш без торгу. А пасля я паўпіхала сваіх тупарылікаў у мяшок і да воза падалася. Раптам чую, нехта на ўвесь кірмаш як закрычыць:

– А-а-а, абакралі! – толькі і змагла разабраць. Сама сабе прыкінула, нібы кумы Альбіны голас. Ды якраз з таго боку даносіцца, дзе мы воз пакінулі. І як у сук уляпіла: мая Альбіна лямантавала. Яна круцілася каля воза і вішчэла так, што аж парасяты прыціхлі. А ля яе ўжо натоўп пачаў збірацца.

– Чаго ты, – кажу, – верашчыш, нібы з цябе скуру лупяць?

– Ах ты, мая Гандзечка, – зноў загаласіла Альбіна, – кашалёк з кішэні вывалаклі, каб іх саміх павыцягалі нагамі ўперад у новых туфлях. Прытаргавала парасятак, хацела заплаціць. Мацмац па кішэнях, а грошай няма. Усё перамацала-перашукала, сена ў возе па жменьцы перэтрусіла – няма грошай і ўсё тут.

– А колькі ж у цябе было? – пытаю.

– Амаль 14 мільёнаў, сястрыца ты мая, і ўсе паперлі, каб з іх дух перла, каб яны іх на лекі патрацілі, злодзеі!

– А мо ты дома забылася? – кажу я.

– Не! Я ж як прыехала сюды, з-за пазухі дастала і ў кішэню пераклала, каб потым за пазуху пры ўсім народзе не лезці. Былі, былі грошы, што ты мне галаву дурыш!..

Да збянтэжанай Альбіны праз натоўп прабіраўся міліцыянер. Кума яму яшчэ здалёк:

– Шукай злодзея, міліцыянерка, родненькі, каб ён дарогі дадому не знайшоў. Гэта ж не жарты: 14 мільёнаў рублёў! Ды з мяне стары скуру злупіць. Парсюка, скажа, за гэтыя грошы можна было б купіць, не тое, што паршывых парасят.

Міліцыянер папраўіў шапку і строга агледзеў натоўп. Людзі пачалі няёмка пазіраць адзін на аднаго.

– Баба Альбіна, – раптам пачуўся голас майго ўнучка. – А можа ў вас грошы за падкладку завалі́ліся? Мне мамка аднойчы дала на марожанае 50 тысяч, і яны залезлі за падкладку. Я аж спацеў, пакуль шукаў, – балабоніў Міколка.

Альбіна тут жа вывернула вялікую, што торба, кішэню, невядома чаму, бо на двары добра развіднела, абсвяціла ліхтарыкам. Бакавое шво было распората. Альбіна хуценька запхала кішэню на месца і залезла рукой за падкладку. Раптам твар яе заззяў, як новы галёш. Праз якую хвіліну яна выцягнула наверх свой вялікі кашалёк, пад самую бліскучую зашчапку набіты грашыма. Потым падышла да майго Міколкі і адпячатала на яго шчацэ звонкі, як ляскат пугі, пацалунак.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**




Малюнак Крыла Ф.

# ГАДАНИЕ на таракане

**Поймайте на кухне таракана и внимательно присмотритесь к нему.**

✶ Если таракан бодрый и здоровый, значит у вас дома все в порядке.

✶ Если таракан квелый - займитесь своей женой, она плохо вас кормит.

✶ Если таракан строго черного цвета - вас ждет повышение по службе.

✶ Если таракан рыжий - в вас влюблена блондинка.

✶ Если таракан зеленый - это к большим деньгам в валюте.

✶ Если таракан все время шевелит усами - вы человек энергичный, подвижный, не можете сидеть без дела.

✶ Если таракан замер - вы философ.

✶ Если таракан имеет удивленный вид - окружающие вас мало ценят.

✶ Если таракан испуган - вы человек, умеющий настоять на своем.

✶ Если таракан ярко синий, рогатый и говорит человеческим голосом - поздравляем, у вас белая горячка.

**Теперь измерьте таракана.**

✶ Если длина таракана меньше 1 см - на вас можно положиться в семейной жизни.

✶ Если длина таракана больше 3 см - вы человек ищущий.

✶ Если размах усов таракана равен длине вашего носа - вы человек любознательный.

✶ Если один ус таракана заметно короче второго - вы еще не реализовали свои возможности.

✶ Если суммарная длина усов таракана равна длине его тела, умноженной на корень квадратный диаметра его брюха и деленной на логарифм количества его ног - вы скрупулезный и дотошный человек.

✶ Если ноги таракана равномерно распределены по всему его телу - вам надо на всякий случай показаться психиатру.

✶ Если же длина таракана равна его ширине - значит, это клоп.

**Отпустите таракана.**

✶ Если он побежит прямо - у вас все еще впереди.

✶ Если он побежит налево - вас ждет волнующая встреча.

✶ Если он побежит направо - займитесь службой: вас подсиживают.

✶ Если он побежит обратно к вам - о, вы интересный человек.

✶ Если он вообще не побежит - он сдох.

 

# ГОРОСКОП

## с 16 по 22 декабря


ОВЕН

Беспокойство вызовут чаще всего беспорядочные, не совсем понятные контакты и предложения, касающиеся финансовых вопросов личного характера. Удачными окажутся отношения с друзьями, чаще всего по вопросам бизнеса, финансов.

ТЕЛЕЦ

Придется выяснять отношения с друзьями в ряде конфликтных ситуаций, касающихся вашей собственности или личных дел. Возможно, из-за этого придется изменить некоторые планы, или даже прежние представления. Удачными окажутся финансовые отношения с официальными лицами. Наладятся отношения с партнерами в рамках корпоративных интересов.

БЛИЗНЕЦЫ

Вам придется столкнуться с навязчивыми и довольно жесткими предложениями, которые вы можете расценить как неприятные. Зато есть возможность наладить удачные деловые связи, получить кредиты, или привлечь инвестиции. Улучшатся отношения с друзьями.

РАК

Вам придется выслушать несколько неожиданных и, скорее всего, не совсем приятных советов, так или иначе касающихся финансов. Тем не менее финансовые операции окажутся удачными, равно как и оформление деловых бумаг. Друзья поймут ваши убеждения и согласятся с ними.

ЛЕВ

Вы, возможно, столкнетесь с настойчивыми требованиями кредиторов или инвесторов, или навязчивыми предложениями относительно финансов, которые вызовут у вас недоверие. В то же время найдутся и те, кто предложит вполне реальные деньги и договоры на честных условиях. Удачными будут официальные встречи и налаживание деловых связей.

ДЕВА

Несколько мелких конфликтов с малознакомыми людьми, принесут беспокойство, так как будут касаться ваших личных дел. Ожидаются мелкие, но реальные заработки или иные удачи в материальной сфере. Появятся интересные собеседники или советники.

ВЕСЫ

На этой неделе вы можете ожидать споров с работодателями, предложения которых будут мешать вашим личным интересам. Зато наладятся немного авантюрные, но выгодные деловые связи. Кто-то может помочь с деньгами, возможны покупки. Ожидается интересный корпоративный договор.

СКОРПИОН

На этой неделе вам придется выдержать несколько неприятных разговоров с недоверчивыми и слишком самоуверенными людьми. Кто-то может узнать о вас что-то, что вы предпочли бы сохранить в тайне. Зато установятся хорошие отношения с членами семьи и с друзьями, решатся некоторые вопросы семейного бюджета.

СТРЕЛЕЦ

На этой неделе кто-то из ваших близких поведет себя совсем не так, как вы ожидали. Это может отразиться и на вашей независимости, вам придется перекраивать планы. Удачными будут финансовые операции, покупки. Вы получите интересную информацию, будет возможность найти работу, если вам вдруг захочется ее поменять.

КОЗЕРОГ

Вам предстоят довольно неприятные разговоры. Полученная вами информация окажется для вас полной неожиданностью и, возможно, заставит вас изменить планы. На этой неделе появятся очень хорошие возможности для получения прибыли, покупок и проведения финансовых операций.

ВОДОЛЕЙ

На этой неделе вероятны споры с людьми, чьи представления о способах получения выгоды кажутся вам неприемлемыми. Не исключены вынужденные покупки. Появятся хорошие возможности для налаживания семейных отношений, в том числе и по вопросам семейного бюджета. Вы сможете найти активных, хорошо понимающих вас деловых партнеров.

РЫБЫ

Кто-то будет настойчиво вмешиваться в ваши дела, преследуя личные интересы. Со временем на этой основе возникнет партнерство, скорее всего, деловое. Появятся хорошие возможности для контактов с финансовыми посредниками, проведения финансовых операций и поиска работы.

Гороскоп составил Вадим ФЕОФАНОВ

# КОНКУРС сучасных прыпевак



***
У люстэрка я гляджу
На прыпухлы тварык:
Быў прыгожы, а цяпер
Укусіў камарык.

***
Мой сусед сабе зрабіў
Новую прычоску:
Ходзіць з лысай галавой —
Прадае расчоску.

***
Наш Мікола ажаніўся:
Зоську моцна пакахаў.
Кожну ночку, як лажыўся,
Коля жонку з ложка пхаў.

***
Я аднойчы ў альбоме
Фоткі разглядала,
Вельмі смешную знайшла —
Сябе не пазнала.

***
Новы рускі прыкупіў
Сабе акуляры:
Так, маўляў, лягчэй лічыць
Маркі і даляры.

***
Наш сусед глядзіць кіно,
Каву папівае,
А як "бацька" выступае —
Кубак разбівае.

***
Каб сыграць вяселле сёння,
Трэба грошай мець вагон.
Закупляйце, людцы, цукар,
Ды ганіце самагон.

Галіна ЯНУШКА

ТЭСТ

# ХТО ГАСПАДАР У ДОМЕ?

**1.** Ты можаш падпарадкоўвацца людзям?
— часцей за ўсё не — 2;
— калі гэтага патрабуе сітуацыя —1;
— спакойна выконваю ўказанні лідэра або старшага — 0.
**2.** Ты часта лічыш сваю думку правільнай?
— амаль заўсёды — 2;
— часам —1;
— я не прэтэндую на веданне ісціны — 0.
**3.** Ты любіш крыцікаваць іншых людзей?
— часцей так —2;
— бывае — 1;
— звычайна не — 0.
**4.** Ты ўпэўнены ў сваіх сілах?
— звычайна так — 2; — часам —1;
— звычайна не вельмі — 0.
**5.** Ты можаш назваць сябе мэтанакіраваным чалавекам?
— так — 2;
— калі як — 1;
— з вялікай цяжкасцю — 0.
**6.** Ты любіш кіраваць іншымі людзьмі?
— вельмі — 2;
— часам мне гэта прыносіць задавальненне — 1;
— не вельмі — 0.
**7.** Ты хочаш быць лідэрам сярод равеснікаў?
— я да гэтага імкнуся — 2;
— часам — 1;
— не — 0.
**8.** Ты любішь, калі цябе хваляць часцей за іншых?
— так — 2;
— бывае — 1;
— не абавязкова часцей — 0.
**9.** Як у цябе развіта сіла волі?
— у вялікай ступені — 2;
— сярэдне — 1;
— мне яе яўна не хапае — 0.
**10.** Ты імкнешся быць лепшым?
— амаль ва ўсім — 2;
— у некаторых выпадках — 1;
— вельмі рэдка — 0.
**11.** Ты любіш спаборнічаць у вучобе або іншых справах?
— вельмі — 2;
— часам — 1;
— не вельмі — 0.
**12.** Як ты ставішся да канкурэнтаў?
— з яўнай антыпатыяй — 2;
— без асаблівай сімпатыі —1;
— нейтральна ці добразычліва — 0.
**13.** Як ты ўспрымаеш чужыя поспехі?
— хваравіта — 2;
— нейтральна — 1;
— з адабрэннем — 0.
**14.** Якія табе падабаюцца партнёры?
— дзелавыя і прадпрымальныя —2;
— розныя — 1;
— добрыя і прыстойныя — 0.
**15.** Ты лічыш, што адносіны ў калектыве павінны быць:
— толькі дзелавымі — 2;
— разнастайнымі — 1;
— у першую чаргу чалавечнымі — 0.
**16.** Ты крытыкуеш гультаёў і бесталач?
— часта і рэзка — 2;
— часам — 1;
— рэдка і спакойна — 0.
**17.** Ты лічыш сябе дзелавым чалавекам?
— безумоўна — 2;
— у дастатковай ступені — 1;
— у нязначнай меры — 0.
**18.** Ты можаш ігнараваць думку навакольных?
— лёгка — 2;
— часам — 1;
— у рэдкіх выпадках — 0.
**19.** Табе падабаецца апека роўнага табе?
— як правіла, не — 2;
— часам мне гэта падабаецца —1;
— асабліва не супраць — 0.
**20.** Ты можаш грэбаваць дробязямі дзеля поспеху ў справе?
— звычайна так — 2;
— часам — 1;
— пры неабходнасці — 0.

**Падвядзём вынікі:**
1-14 балаў: ты дакладна не лідэр і ім не будзеш;
15-26: у цябе добрыя задаткі лідэра;
27-40: ты — прыроджаны лідэр.

**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Кароль Мікіта
Светлакова Лізавета
Жукоўскі Яўген
Пракаповіч Лізавета
Замарухава Вераніка
Логвінава Аляксандра
Стаднік Дзяніс
Латаш Дар'я
Латаш Аляксандр
Новік Андрэй
Кузняцоў Уладзіслаў
Кохан Юрый
Дзярабіна Юлія
Паўлава Вікторыя
Ёрш Руслан
Скамарох Аляксандра
Блізнюк Павел



## Светлай памяці



| | | |
|---|---|---|
| **Пакамеда** Іраіда Васільеўна | | 1928 г. |
| **Мацяйчук** Хрысціна Іванаўна | | 1940 г. |
| **Міхей** Вольга Пятроўна | | 1918 г. |
| **Лабар** Міхаіл Сяргеевіч | | 1967 г. |
| **Юркова** Варвара Макараўна | | 1920 г. |
| **Бранцэвіч** Сігізмунд Аляксандравіч | | 1915 г. |
| **Кулак** Іван Васільевіч | | 1940 г. |



Выражаем большую благодарность дирекции, профкому, всему коллективу АОО "Слониммебель" родственникам, соседям, которые поддержали нас и приняли участие в похоронах нашей дорогой, любимой жены, матери, свекрови и бабушки **Матейчук** Кристины Ивановны.

*Семья* ***Матейчук***



## ДВУХБУКВЕННЫЙ КРОССВОРД

**В каждую клетку вписывается по две буквы**

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:**
**1**. В старину: сумка для стрел. **3**. Морская мера длины. **4**. Деревянный крестьянский дом. **6**. Известный российский клуб по мини-футболу. **8**. Бывшее социалистическое государство. **10**. Очки, держащиеся при помощи пружины, зажимающей переносицу. **12**. Небольшая рыба, род плотвы. **13**. Невежественный, грубый, жестокий человек. **14**. Узкая полоса кожи со швом, соединяющим верх обуви с подошвой. **15**. Государство в Северной Америке. **17**. Город на севере Франции. 19. Исторически сложившаяся группа людей. **21**. Река в Турции. **23**. Грузоподъемный механизм. **24**. Веревка, стягивающая концы лука. **25**. Бланк или специальная доска для учета чего-нибудь. **26**. Массы снега, низвергающиеся с гор. **28**. Общая сумма. **30**. Водный поток. **31**. Река в Польше, впадающая в Балтийское море. **33**. Название самоуправляющейся организации украинского казачества в 16-18 в.в. **34**. Город в северном Казахстане.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:**
**1**. Дикая коза. **2**. Исследование, изучение чего-нибудь путем разложения на составные части. **3**. Снаряд. **5**. Столица бывшей социалистической республики. **6**. Тот, кто занимается наукой или искусством без специальной подготовки. **7**. Вероятная возможность осуществления чего-нибудь. **9**. Легкая спортивная лодка. **10**. Прядильное волокно из конопли. **11**. Штат в США. **14**. Холодное оружие, применяемое в фехтовании. **16**. Характер, темперамент человека. **18**. Город в Витебской области. **20**. В астрономии: спутник небесного тела. **21**. Город в Греции. **22**. Длинная верхняя одежда католического духовенства. **23**. Однорядная гармонь. **27**. Алкогольный напиток. **29**. Город в Латвии. **30**. Разговор, беседа. **32**. Старинное военное многовесельное судно. **33**. Тайна.

Составил Владимир ВАШУТА

### ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№50)

**По горизонтали: 5**. Багаж. **8**. Бутон. **10**. Балет. **11**. Бажов. **12**. Глаз. **13**. Рейд. **14**. Торос. **16**. Лепет. **17**. Наган. **19**. Калач. **22**. Неман. **23**. Накат. **25**. Брак. **26**. Доха. **27**. Лаваш. **29**. Салат. **31**. Нонет. **32**. Номер **По вертикали: 1**. Трал. **2**. Клуж. **3**. Набат. **4**. Совет. **6**. Газон. **7**. Жетон. **8**. Бакен. **9**. Торец. **15**. Саван. **16**. Ладан. **18**. Декан. **19**. Карат. **20**. Чабан. **21**. Мадам. **22**. Налог. **24**. Тотем. **28**. Вече. **30**. Ложь.

 



Газета Слонімская
16 — 22 снежня 1999г., № 51 (132)

## ПОЧТА

Уважаемая редакция "ГС"!

Наша школьная команда юношей-волейболистов очень успешно выступала на различных соревнованиях, занимая 1 и 2 места. Недавно мы были вторыми на областной спартакиаде по волейболу в Гродно. Немалая заслуга в наших успехах принадлежит тренеру команды Софье Владимировне Харитончик.

Но есть у команды и проблемы. Например, из-за отсутствия хорошей материальной базы возможности команды очень ограничены: не хватает мячей, нет наколенников, да и форму приходится одалживать.

Мы обращаемся через газету к людям, имеющим возможность, а главное желание, помочь молодой перспективной команде. Заранее спасибо!

**Волейболисты СШ № 9 г.Слонима**

## НАВІНЫ

### Чацвёртыя з шасці ўдзельнікаў

**Гандбольная жаночая каманда "Універсітэт" (Гродна)-"Мясакамбінат" (Слонім) правяла чарговыя матчы ў чэмпіянаце Беларусі.**

У Слоніме "Універсітэт-Мясакамбінат" спачатку прайграў камандзе "Друць-Белпак" з Магілёўскай вобласці 26:28, а на наступны дзень згуляў з ёй унічыю 25:25. Пасля гэтых сустрэч гродзенска-слонімская каманда мае на сваім рахунку дзве перамогі, адну нічыю і чатыры паражэнні, забіта 184 і прапушчана 215 мячоў. "Універсітэт-Мясакамбінат" займае чацвёртае месца сярод шасці каманд.

**Алег ТАЧОНЫ**

# СЛОНІМСКІЯ КАРАТЫСТЫ

**12 снежня ў слонімскім спарткомплексе адбыліся вучэбна-атэстацыйныя зборы па каратэ кіёкушынкай.**

Заснавальнікам гэтага стылю каратэ быў японец Масутацу Аяма, які меў самы вышэйшы ранг у каратэ кіёкушынкай. У Слоніме секцыі кіёкушынкай дзейнічаюць з 1995 года ў некалькіх гарадскіх школах. А сёлета ў чэрвені міністэрства юстыцыі зарэгістравала Слонімскае грамадскае аб'яднанне – клуб "Барс". Па словах яго кіраўніка Васіля Максімава, асноўная мэта аб'яднання – развіццё і папулярызацыя каратэ кіёкушынкай на Слонімшчыне. Вялікая ўвага надаецца фізічнай падрыхтоўцы моладзі. У асноўным, кіёкушынкай займаюцца школьнікі, але ёсць і дарослыя хлопцы, некаторыя пасля арміі, а таксама студэнты.

Асаблівасцю кіёкушынкай з'яўляецца тое, што баі ў ім вядуцца ў поўны кантакт. У гэтым давялося пераканацца, назіраючы за баямі слонімскіх каратыстаў падчас атэстацыі, якую праводзіў асабіста кіраўнік Беларускай федэрацыі кіёкушынкай Аляксандр Янюк. Побач з хлопцамі паказвалі свае навыкі, уменне і дзяўчаты. На маё пытанне, ці не цяжка дзяўчатам авалодваць майстэрствам каратэ, Васіль Максімаў адказаў: – У некаторай ступені ім цяжэй, чым хлопцам. Аднак патрабаванні да ўсіх аднолькавыя. У нас няма і не павінна быць нейкіх падзелаў. Калі ты прыйшоў сюды, то павінен выконваць вызначаныя патрабаванні да каратыста кіёкушынкай.

Пасля заканчэння атэстацыйных баёў Аляксандр Янюк падвёў вынікі збораў. Ён вызначыў лепшых, падказаў, якія памылкі робяць хлопцы і дзяўчаты, даў парады.

У выніку збораў слонімскія юныя каратысты павысілі свой узровень на "кю" (гэта такая ступень у вучня), у кагосьці з'явяцца нашыўкі, паясы іншых, больш "высокіх", колераў. Ну і, зразумела, падчас такіх збораў назапашваецца досвед.

Старшыня Беларускай рэспубліканскай федэрацыі кіёкушынкай **Аляксандр Янюк** адказаў на некалькі пытанняў карэспандэнта "ГС":

***— Аляксандр Міхайлавіч, як бы вы ацанілі майстэрства слонімцаў?***

– Майстэрствам гэта яшчэ нельга назваць... Я атэстую да сёмага "кю", а гэта невялікая ступень. Таму на гэтым узроўні гаварыць аб нейкім майстэрстве ранавата. Я казаў хлопцам і дзяўчатам, што яны зрабілі істотны крок наперад. І гэтым я вельмі задаволены.

***— У нашай вобласці, акрамя Слоніма, ёсць яшчэ аматары кіёкушынкай?***

– На жаль няма. Пакуль толькі Слонім прадстаўляе Гродзеншчыну. Нават у абласным цэнтры няма аматараў кіёкушынкай. А вось у Брэсцкай вобласці існуе некалькі цэнтраў: у Брэсце, Пінску і Баранавічах. Дарэчы, некалькі прадстаўнікоў з Баранавіч сёння прымалі ўдзел у зборах. Геаграфія паступова пашыраецца. Большымі тэмпамі развіваць кіёкушынкай пакуль немагчыма, бо не так проста падрыхтаваць трэнераў-інструктараў. Трэнер павінен вырасці, прайсці адпаведную школу...

***— Як даўно дзейнічае Беларуская федэрацыя кіёкушынкай?***

– Яшчэ ў 1993 годзе была зарэгістравана Беларуская арганізацыя кіёкушынкай (каратэ). Аднак па віне яе былога кіраўніка арганізацыя спыніла сваё існаванне. У 1996 годзе была зарэгістравана Беларуская федэрацыя кіёкушынкай. Яна ўжо прайшла перарэгістрацыю. На сённяшні дзень у нас ёсць добры патэнцыял для росту, развіцця.

**— На міжнароднай арэне беларускія каратысты выступаюць?**

– Вялікага досведа міжнародных выступленняў у нас пакуль няма. У асноўным, прычынай гэтага з'яўляецца недахоп фінансавых сродкаў. Бо паездка ў тую ж Японію каштуе вялікіх грошай. У 1995 годзе два нашых спартсмены ўдзельнічалі ў чэмпіянаце свету. Вельмі актыўна мы выступілі сёлета: у красавіку на кубку Масквы, Гомеля (з запрашэннем расійскіх спартсменаў), на кубку СНГ, на чэмпіянаце свету ў Токіо, дзе Беларусь прадстаўляў толькі я.

*Аляксандр Янюк*

Апошнім часам у нас склаліся добрыя адносіны са спартсменамі Масквы, дзе пачаў актыўна развівацца кіёкушынкай. Раней ён быў распаўсюджаны ў асноўным на Далёкім усходзе, напрыклад, у Хабараўску. А гэта вельмі далёка і нязручна для сталых кантактаў. Ну, а цяпер з Масквой нам кантактаваць лягчэй. Там рэгулярна праводзяцца спаборніцтвы, у якіх мы ўдзельнічаем.

**Сяргей ЁРШ, Віталь ГІЛЬ (фота)**

# НАДВОР'Е ЎНОСІЦЬ СВАЕ КАРЭКТЫВЫ

**11 снежня ў Гродне ўрачыста адкрыўся Лядовы палац, які адпавядае еўрастандартам і з'яўляецца адным з лепшых у Беларусі.**

У цырымоніі адкрыцця палаца прыняў удзел і Аляксандр Лукашэнка, які традыцыйна паганяў на лёдзе шайбу. Яго ная любоў да хакея добра вядома. У мінулым годзе па ініцыятыве Аляксандра Рыгоравіча праводзіліся нават спаборніцтвы "Залатая шайба", у якіх брала ўдзел і слонімская хакейная каманда, тэрмінова для гэтага створаная.

А ў якім стане сёння хакей у Слоніме? Па словах загадчыка аддзела гарвыканкама па фізкультуры і спорту Генадзя Вількіцкага, хакейныя спаборніцтвы ў Слоніме не праводзяцца з 80-х гадоў. І галоўная прычына такой сітуацыі – надвор'е, занадта цёплае для зімы. Сёлета, напрыклад, ужо былі падрыхтаваны пяць асветленых каткоў, але надвор'е зноў унесла свае карэктывы...

Падобная сітуацыя склалася і з іншымі зімнімі відамі спорту. Напрыклад, з лыжамі. Генадзь Вількіцкі адзначае, што "ужо два выпускі слонімскіх школьнікаў ні разу не стаялі на лыжах"...

# ХАКЕЙ З МЯЧОМ У СЛОНІМЕ

**Сёння ўжо мала хто памятае, што ў 50-60-я гады ў нашым горадзе існавалі каманды па хакеі з мячом.**

У той час хакей з мячом быў вельмі папулярны ў краіне. У Слоніме таксама стварылася некалькі каманд. Старажылы ўспамінаюць, што былі такія на КПЗ "Альбярцін", АРЗ, на мэблевай фабрыцы. Праводзілася першынство горада. Гульні адбываліся на гарадскім стадыёне. Ёсць звесткі, што слонімскія хакеісты таксама гулялі на катку на стадыёне па вуліцы Чарняхоўскага, залівалі каток на пляцоўцы каля мясакамбіната.

Вячаслаў Сцяпура ўспамінае, што існавала і каманда вайскоўцаў. Яе стварыў генерал-маёр Малееў, камандзір дывізіі, якая дыслакавалася ў Слоніме. Ён быў вялікім аматарам спорту і асабіста адбіраў ігракоў у дывізіённыя футбольныя і хакейныя каманды. Вайскоўцы спаборнічалі з мясцовымі хакейнымі калектывамі. Зборная ж горада выступала на чэмпіянаце вобласці.

Аднак, ужо дзесьці на пачатку 70-х гадоў каманды па хакеі з мячом перасталі існаваць у Слоніме.

**Сяргей ЁРШ**

## КАЛЯНДАР

**■ 16 снежня**

— у 1986 годзе ў Алма-Аце пачаліся масавыя выступленні моладзі супраць прызначэння на пасаду кіраўніка кампартыі Казахстана масквіча Колбіна. Выступленні былі жорстка падаўлены, былі забітыя і параненыя.

**■ 17 снежня**

— у 1770 годзе нарадзіўся Людвіг Бетховен, нямецкі кампазітар.

— у 1935 годзе ў Слоніме праходзіў судовы працэс над палітычнымі зняволенымі — удзельнікамі камуністычнага падполля.

— у 1981 годзе ЗША парвалі ўсе эканамічныя сувязі з Польшчай, каб пакараць яе кіраўніцтва за ўвядзенне ваеннага становішча і рэпрэсіі супраць "Салідарнасці". 29 снежня эканамічныя санкцыі былі распаўсюджаныя і на СССР.

**■ 18 снежня**

— у 1973 годзе ў космас паляцеў першы беларус — Пётр Клімук.

— у 1976 годзе ў Цюрыху (Швейцарыя) адбыўся першы ў гісторыі абмен палітвязняў паміж СССР і Захадам: дысідэнта Уладзіміра Букоўскага абмянялі на генсека чылійскай кампартыі Луіса Карвалана.

**■ 19 снежня**

— у 1915 годзе нарадзілася легендарная французская спявачка Эдзіт Піяф.

— у 1986 годзе з горкаўскай ссылкі вярнуўся акадэмік Андрэй Сахараў.

**■ 20 снежня**

— у 1917 годзе створана ВЧК, рэпрэсіўны орган савецкай улады. Беларускія чэкісты і сёння адзначаюць гэты дзень як свята.

— у 1987 годзе недалёка Манілы (Філіпіны) пасля сутыкнення з танкерам затануў філіпінскі цеплаход, на борце якога было каля 2000 пасажыраў. Людзей загінула больш, чым падчас катастрофы "Тытаніка".

**■ 21 снежня**

— у 1913 годзе ў New York World была надрукаваная першая крыжаванка (красворд).

— у 1943 годзе ў Мінску была створана Беларуская Цэнтральная Рада, якая атрымала ад нямецкіх акупантаў кантроль над адукацыяй, культурай, сацыяльнай апекай, а пасля і дазвол на стварэнне беларускіх вайсковых аддзелаў.

— у 1988 годзе лівійскія тэрарысты ўзарвалі над Шатландыяй амерыканскі лайнер (з дапамогай бомбы, схаванай у транзістарным прыёмніку). Загінулі ўсе 270 чалавек, што былі на борце, а таксама некалькі жыхароў мястэчка Локербі, на якое ўпалі рэшткі самалёта.

**■ 22 снежня**

— у 1924 годзе ў Слоніме прайшоў ваенна-палявы суд над беларускімі партызанамі, якія абвінавачваліся ў нападзе на цягнік на станцыі Лясная. Чацвёра чалавек былі прысуджаны да расстрэлу.

— у 1937 годзе ў засценках НКВД быў расстраляны без суда выдатны беларускі мастак Раман Семашкевіч. У 1958 г. ён быў рэабілітаваны, але дагэтуль невядомае месцазнаходжанне 300 палотнаў мастака, якія былі канфіскаваны падчас арышту.

## АНЕКДОТЫ

от www.citycat.ru

☺ 😐 ☹

В больницу привозят окровавленного водителя.

- Что случилось? - спрашивает врач.

- Хотел в переулок въехать, - отвечает пострадавший.

- И что, переулок оказался узким?

- Да не было там никакого переулка.

☺ 😐 ☹

В санатории.

- Сколько вас здесь работает?

- С главврачом - тридцать.

- А без него?

- Без него никто не работает.

☺ 😐 ☹

Поезд. В купе сидят 2 мужика. Пересекают границу. Вваливаются 3 таможенника.

- Наркотики, оружие, валюта?!

- Да нет, спасибо, два чая, если не затруднит.

☺ 😐 ☹

Японская сборка, швейцарская солидность, немецкая надежность, американская эффективность - у австралийских телевизоров, собранных по венесуэльской лицензии северокорейскими рабочими на нашем заводе!

☺ 😐 ☹

- Ну просто сердце кровью обливается, как вижу этих заспиртованных животных!

- Да что ты, там же всего три лягушки..

- Вот именно - три лягушки. А спирта - литров десять!!

☺ 😐 ☹

Пришел выпускник МАИ в КБ работать. А там над конструкцией самолета бьются: отваливается крыло у самолета и все. Балки силовые ставили, крепления, тросики - ничего не помогает. Тогда он и говорит:

- А вы дырок у основания крыла насверлите!

- Ты что, обалдел? Тем более отвалится.

- А вы попробуйте. Попробовали... Держится!!!

- А откуда ты знал, что это поможет?

- А вы когда-нибудь видели, чтоб туалетная бумага по дырочкам отрывалась?

☺ 😐 ☹

- Джон, - обратился на экзамене профессор географии к студенту из Оклахомы, - расскажите, чем характерны засухи в вашем штате?

- Когда наши реки пересыхают, то, то... косяк рыбы, идущий вверх по течению, поднимает столбы пыли.

☺ 😐 ☹

За столом сидят лорд и леди, прожившие вместе почти 10 лет. Леди говорит лорду:

- Сэр, до того как выйти за вас замуж, я навела о вас справки, и мне сказали, что вы такой любовник, такой любовник?!

- Мадам, — отвечает ей лорд,- а я до того, как жениться на ваших деньгах, тоже навел справки и мне сказали, что у вас такой порок сердца, такой порок сердца!

☺ 😐 ☹

- Почему ты говоришь что между горлом и ногами существует тесная связь?

- Как почему! Промочишь ноги - заболит горло, промочишь горло - заплетаются ноги.

☺ 😐 ☹

Муж пришел с визитом к своему семейному адвокату и рассказывает :

- В первое время после свадьбы я приходил домой с работы и жена подавала мне тапочки, а наша собачка бегала вокруг меня и лаяла. Теперь же, спустя десять лет, все по-другому. Я прихожу домой, собака приносит мне тапочки, а жена ходит вокруг меня и лает.

- Ну и чего жаловаться? - говорит адвокат. - У тебя попрежнему тот же сервис.

☺ 😐 ☹

Дают интервью корреспонденту:

- А кукуруза в этом году уродила, как телеграфные столбы!

- Что вы говорите! Такая высокая?

- Нет, такая же частая...

 